наша
# СВАБОДА

№110(197) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

10 КАСТРЫЧНІКА 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



## Бюджэт недалічваецца 280 мільярдаў рублёў

Сваё сённяшняе бясспрэчнае зацвярджэнне на пасадзе прэм'ер-міністра ў палаце прадстаўнікоў Генадзь Навіцкі сустрэне з невялікім энтузіязмам. Бо яму найперш давядзецца латаць дзіркі ў бюджэце-2001, у якім ужо не хапае 280 мільярдаў рублёў (амаль 200 мільёнаў долараў). Гэта значыць, апроч іншага, што галоўны наймальнік у нашай краіне – беларуская дзяржава – нават не здолее разлічыцца з сваімі працаўнікамі за выкананую працу. Такога за ўсе сем гадоў кіравання А.Лукашэнкі яшчэ не было.

### Патрэбныя «неардынарныя захады»

У панядзелак пакуль яшчэ выконваючы абавязкі кіраўніка беларускага ўрада сустракаўся з дэпутатамі пастаяных камісіяў палаты прадстаўнікоў. На гэтай сустрэчы і прагучала пагрозлівая лічба – 280 мільярдаў рублёў. Яе назваў сам Г.Навіцкі. Ён заявіў, што калі не прыняць надзвычайных захадаў, то даходная частка бюджэту-2001 проста не будзе выкананая.

Па словах Г.Навіцкага, бюджэт кепска папаўняўся адразу – пачынаючы са студзеня, і нядоімка паступова ўзрастала, пакуль не дасягнула сённяшняга ўзроўню. Ён адзначыў, што выратаваць бюджэт 2001 года можна толькі «неардынарнымі захадамі». Кіраўнік урада паведаміў, што цяпер Савет міністраў разам з Нацыянальным банкам рыхтуе комплекс захадаў для таго, каб змякчыць наступствы фінансавага дэфіцыту.

### Беларусь выратуе бізнес?

Падчас сустрэчы з «парламентарыямі» Генадзь Навіцкі заявіў, што надышоў час «рашуча зрушыць» дробны і сярэдні бізнес. Няўжо пасля сямі гадоў паступовага ўдушэння любой прыватнай ініцыятывы ўрад вырашыў змяніць сваю пазіцыю і пачаць спрыяць ёй?

У сваім першым публіцыстычным творы «Вызваліцель» былы савецкі разведчык Уладзімір Рэзун (Віктар Сувораў) распавёў пра ініцыятыву аднаго высокага вайсковага чына з Групы савецкіх войскаў у Германіі. Той штодня бачыў, як ягоныя падначаленыя співаюцца, седзячы ў піўных прама на тэрыторыі савецкага вайсковага гарадка. Камандзіру гэта вельмі не падабалася, і аднойчы ён загадаў сапёрнаму ўзводу ўначы знішчыць усе «піўнухі» ў часці, а на іх месцы ўладкаваць прыгожыя газончыкі. Так і было зроблена. Але ў канцы месяца начальнік фінансавага аддзела бадзёра адрапартаваў барацьбіту з алкаголем, што грошай на сплату заробкаў няма.

*Заканчэнне на стар.3*

**ТЭНДЭНЦЫІ**

## Адвучыць Лукашэнку ад дэкрэтаў

Прапанаваў старшыня палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Вадзім Папоў. Падчас сустрэчы дэпутатаў пастаяннных камісіяў з выконваючым абавязкі прэм'ер-міністра Генадзем Навіцкім абмяркоўвалася падвышэнне эфектыўнасці ўзаемадзеяння парламента і ўрада, перадае агенцтва БелаПАН.

В.Папоў заявіў, што ў першую чаргу неабходна скараціць дэкрэтнае рэгуляванне. «Час зачыняць гэты пралаз», — сказаў старшыня палаты прадстаўнікоў.

Замест прэзідэнцкіх дэкрэтаў дэпутаты прапанавалі прымаць законы, у тым ліку і ў тэрміновым парадку. Дзеля гэтага яны гатовыя збірацца на пазачарговыя сесіі.

**Ірына СТАРЦАВА**

# Перасталі плаціць заробкі




Фота Ул.ШЛАПАКА/архіў

*33 мільярды 365 мільёнаў 800 тысячаў рублёў, або больш за 22 мільёны долараў склала запазычанасць па заработнай плаце ў народнай гаспадарцы на Беларусі па стане на 30 верасня. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай па эканамічных пытаннях Франц Вітко.*

Па ягоных звестках, сума запазычанасці за верасень склала 7,5% ад фонду заработнай платы за жнівень. Такой велічэзнай запазычанасці Беларусь сёлета яшчэ не ведала. Дый летась такога бязмежжа не было: у верасні 2000 года агульная запазычанасць складала 0,1%, у кастрычніку – 1,8%, у лістападзе – 3,8% ад фонду заработнай платы.

Катастрафічнае становішча з нявыплатай заробкаў Франц Вітко наўпрост звязвае з прэзідэнцкімі выбарамі. Па ягоных словах, менавіта прэзідэнцкая кампанія з'ела ўсе грошы. У жніўні запазычанасць складала толькі 0,5% — «было зроблена ўсё, каб запазычанасць была мінімальная; выдалі крэдыты, нават таму, каму няварта было б выдаваць, і разлічыліся па заробках». У верасні – пасля выбараў – запазычанасць адразу сягнула да паказчыка ў 7,5%, гэта значыць падскочыла ў 15 разоў.

Такім чынам, паводле Франца Вітко, «толькі ў верасні рэальнае становішча ў эканоміцы пачало праяўляцца, хаця карціна дагэтуль няпоўная».

Сярод рэгіёнаў сумнае лідэрства па запазычанасці ўпэўнена трымае Гродзенская вобласць, якая завінавацілася працоўным 14,7% ад месячнага фонду зарплаты. На пяты Гродзеншчыне наступае «малая радзіма» А.Лукашэнкі — Магілёўская вобласць, дзе запазычанасць складае 12,9%. За імі ўшчыльную ідзе Брэсцкая вобласць з 9,5% запазычанасці. Найменшая запазычанасць сярод рэгіёнаў зафіксаваная ў Мінску – толькі 0,1%. Гэта і зразумела, бо сталіца не будзе маўкліва цярпець здзек, што яскрава прадэманстравалі стыхійныя выступленні на Мінскім трактарным заводзе 28 верасня.

Да масавага пратэсту гатовыя і іншыя мінскія прадпрыемствы, прынамсі, машынабудаўнічыя, кажа старшыня прафсаюза аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання Аляксандр Бухвостаў. Ён адзначае, што сітуацыя ў галіне пагаршаецца з кожным днём, і выступленні рабочых цяпер трэба чакаць ці не штомесяц. Таму відавочна, што ўлады аўральным парадкам знайшлі грошы, каб разлічыцца з менчукамі.

Сярод галінаў гаспадаркі безумоўнае лідэрства трымае сельская гаспадарка – 45,4% усёй запазычанасці. Сітуацыя тут зразумелая: сельская гаспадарка ніколі не была прыярытэтам цяперашняй улады па своечасовай выплаце заробкаў, яна даўно знаходзіцца на задворках народнай гаспадаркі, а «Дажынкі-2001», фінансаваныя з дзяржаўнага бюджэту, яшчэ больш «дапамаглі» вяскоўцам. Да прыкладу, у канцэрне «Беларускія мастацкія промыслы» запазычанасць дасягнула 22,9% ад месячнага фонду аплаты працы.

«Такія велічэзныя запазычанасці па заробках у верасні напрамую трэба звязваць з прэзідэнцкімі выбарамі. У верасні запазычанасць дасягнула свайго апагею ў гэтым годзе, такой вялізнай запазычанасці сёлета яшчэ не было», — заявіў у інтэрв'ю НАШАЙ СВАБОДЗЕ Франц Вітко.

**Рыгор БУЯН**

# Беларусь «пракінулі» ў ААН

*Насуперак шматлікім намаганням міністэрства замежных справаў, Беларусі не ўдалося дарвацца да рычагоў улады ў Савеце Бяспекі Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў. 8 кастрычніка Генеральная Асамблея ААН, у якую ўваходзіць 189 краінаў, пераабірала часовых сяброў Савета Бяспекі. Скончыўся двухгадовы тэрмін паўнамоцтваў Украіны, і на яе месца спакусілася наша краіна.*

Савет Бяспекі – адзін з ключавых органаў ААН. Для кожнай краіны свету патрапіць у кола яго чальцоў – вельмі высокі гонар, але і вялікая адказнасць таксама. Справа ў тым, што калі рашэнні ААН або нейкага асобнага органа гэтай арганізацыі з'яўляюцца толькі рэкамендацыйнымі, то рашэнні Савета Бяспекі з'яўляюцца абавязковымі для выканання ўсімі чальцамі ААН.

У склад Савета Бяспекі ўваходзяць пяць сталых краінаў-чальцоў, якія маюць права вета, – Вялікабрытанія, ЗША, Кітай, Расія і Францыя, – і дзесяць часовых, якія абіраюцца на два гады. Штогод адбываюцца перавыбары пяці часовых краінаў-чальцоў, па адным ад кожнага рэгіёна.

На месца Украіны прэтэндавалі ад Усходняй Еўропы Балгарыя і Беларусь. Вядома, што беларускі МЗС праводзіў шматлікія кансультацыі і перамовы з іншымі краінамі, што ўваходзяць у ААН, з мэтай дамагчыся падтрымкі на выбарах і абяцаючы розныя даброты ў абмен.

У красавіку гэтага года мы ўжо паведамлялі пра візіт намесніка міністра замежных справаў Беларусі Аляксандра Сычова ў Коста-Рыку. Там ён сустракаўся з в.а. міністра замежных справаў спн. Уайт і пераконваў яе падтрымаць кандыдатуру Беларусі на выбарах у Савет Бяспекі. Але коста-рыканская кіраўніца знешнепалітычнага ведамства адмовіла беларускім уладам, спаслаўшыся на праблемы з правамі чалавека ў нашай краіне. Натуральна, што гэта – адзінкавы выпадак, пра які нам стала вядома з дыпламатычных крыніцаў; відавочна, што аналагічных перамоваў было куды больш.

Аднак колькі б высілкаў ні прыкладаў беларускі МЗС, але выбар паміж дзвюма краінамі склаўся не на нашу карысць. Балгарыі аддалі перавагу ажно 120 краінаў свету, тады як Беларусі – толькі 53. Гэтага было дастаткова, каб скончыць спрэчку: паводле статута, кожнай краіне патрэбная падтрымка не менш чым дзвюх трацінаў галасоў.



На жаль, за паўтары гады працы ў ААН Сяргею Лінгу так і не ўдалося пабудаваць там атмасферу даверу да Беларусі.

*Заканчэнне на стар.3*

## Снайперы ў Беларусі

8 кастрычніка ў Мар'інай Горцы адкрыўся міжнародны семінар-спаборніцтвы ў снайперскай падрыхтоўцы. Беларусь прадстаўляе «Алмаз». На падобных спаборніцтвах, якія праходзілі напрыканцы верасня ў Расіі, «алмазаўцы» занялі першае агульнакаманднае месца, а ў Славакіі — трэцяе. Праграма мар'інагорскіх спаборніцтваў уключае ў сябе начную стральбу, снайперскі двубой, стрэлы на далёкую адлегласць, самую дакладную стральбу.

## Кувейцкі крэдыт

7 кастрычніка ў Беларусь прыбылі эксперты Кувейцкага фонду арабскага эканамічнага супрацоўніцтва. Яны будуць вывучаць магчымасць удзелу ў рэканструкцыі некаторых беларускіх прадпрыемстваў – у прыватнасці, светлагорскага «Хімвалакна». Абмяркоўваецца пытанне выдзялення льготнага крэдыту ў памеры 14 мільёнаў долараў.

## Стратныя прадпрыемствы па ўсёй краіне

У Беларусі стратныя 37% прадпрыемстваў. Што да рэгіёнаў, то на Берасцейшчыне стратныя 32% прадпрыемстваў ад іх агульнай колькасці, на Віцебшчыне – 47%, Гомельшчыне – 40%, Гродзеншчыне – 38%, Міншчыне – 41%, Магілёўшчыне – 47%. У Мінску самая лепшая сітуацыя – 17%.

## Фонды банкаў

Доля замежных інвестыцыяў у агульным аб'ёме статутных фондаў банкаў, зарэгістраваных на тэрыторыі Беларусі, складае каля 6%, у тым ліку сродкі расійскіх інвестараў — 3,1%. Сукупны статутны фонд банкаўскай сістэмы дасягнуў на 1 верасня 279 мільярдаў рублёў, у эквіваленце — 212,4 мільёна еўра.

## Прагназуецца ўспышка сухотаў

Беларускія фтызіятры прадбачаць успышку захворванняў на сухоты. Як яны мяркуюць, гэта здарыцца ў 2004-2005 гадах. Найбольшая рызыка заразіцца туберкулёзам у тых, хто хворы на ВІЧ-інфекцыю, і ў тых, хто ўтрымліваецца ў папраўча-працоўных установах.

## Паляўнічыя рыхтуюць стрэльбы

З 6 кастрычніка ў Беларусі адкрыўся восеньска-зімовы сезон палявання на пушныя віды жывёлаў. Праўда, у некаторых мясцінах гэты тэрмін трохі перанесены – на 20 кастрычніка.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1500**

# Бюджэт недалічваецца 280 мільярдаў рублёў

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Аказалася, што амаль усе грашовыя сродкі ў часці хадзілі «па коле»: спачатку іх выдавалі афіцэрам, тыя іх прапівалі ў савецкіх піўных, а піўныя ў сваю чаргу здавалі ўсю выручку ў фінаддзел, каб на наступны месяц было чым плаціць заробак афіцэрам. Калі былі знішчаныя «піўнухі» на тэрыторыі гарадка, савецкія афіцэры не сталі піць менш. Яны сталі хадзіць у горад, дзе і пакідалі свае грошы. Кола разамкнулася. Абуранаму камандзіру не засталося нічога іншага, як загадаць аднавіць «рассаднікі алкаголю».

Кіраўніцтва Беларусі вельмі нагадвае такога камандзіра. Пастунова выціскаючы і знішчаючы прыватны бізнес, дробны і буйны, – замяняючы і зносячы шапікі, абкладаючы прадпрымальнікаў непамернымі падаткамі і арэнднай платай, рабуючы іх на мяжы, прымушаючы ўвесь час нешта ахвяраваць у бюджэты ўсіх узроўняў, апроч падаткаў, і нават выходзіць на суботнікі – урад нарэшце дамогся свайго. Але, здаецца, вынікі не вельмі яго радуюць. Аказваецца, што ўсё прыйдзецца «адкручваць назад». Зрэшты, як адзначыў Генадзь Навіцкі, для гэтага ў Беларусі «ёсць усе неабходныя ўмовы і вопыт».

### Эканамічныя рэформы «па Навіцкім»

Кіраўнік урада падзяліўся з дэпутатамі палаты прадстаўнікоў, што тое галоўнае, што ён хоча зрабіць, – гэта падвысіць эфектыўнасць беларускай эканомікі, якая «ў цяжкім стане, але на плыву».

Рэформы, паводле словаў Генадзя Навіцкага, будуць праводзіцца ў Беларусі пастунова. У якасці арыенціру будзе выкарыстоўвацца досвед 10-гадовага развіцця былых савецкіх рэспублікаў.

Як паведамляе агенцтва БелаПАН, у бліжэйшых планах новага ўрада – спрашчэнне працэдуры рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання і скарачэнне пераліку ліцэнзуемых відаў дзейнасці.

Тым часам, на новай пасадзе Генадзь Навіцкі падпісвае дакументы аб фінансаванні далёка не самых неабароненых беларускіх грамадзянаў. Толькі 2 кастрычніка ён падпісаў адразу дзве пастановы Савета міністраў аб выдзяленні сродкаў з дзяржаўнага бюджэту.

Першая, за нумарам 1442, абавязвае міністэрства фінансаў выдзеліць аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму 250 мільёнаў рублёў для забеспячэння жыллём пракурорскіх работнікаў. Пры гэтым Брэсцкі, Віцебскі, Гомельскі, Гродзенскі і Магілёўскі аблвыканкамы атрымаюць на гэтыя мэты па 20 мільёнаў рублёў, Мінскі аблвыканкам – 25 мільёнаў, а Мінскі гарвыканкам – ажно 125 мільёнаў рублёў.

Другая пастанова, №1444, «каштуе» каля 740 мільёнаў рублёў. Тут грошы мусяць выдзяляцца на рэканструкцыю Рэчыцкага гарадскога раённага аддзела ўнутраных справаў (80 мільёнаў), на пагашэнне запазычанасці за рамонт казармы ў Паўднёвым ваенным гарадку г. Ліды (39,4 мільёна), на ўтрыманне ваенных гарадкоў Асіповіцкім райвыканкамам (120 мільёнаў рублёў). Асобна паўмільярда рублёў выдзяляецца з бюджэту дзяржавы Мінскаму аблвыканкаму, каб «кампенсаваць выпадзенне даходаў» пасля таго, як гарадскі пасёлак Сокал стаў часткай Мінска.

Тым часам, запазычанасць па заробках працоўным па ўсёй Беларусі ўжо складае рэкордную суму ў 33.365.800.000 рублёў – гэта 7,5% ад усяго фонду заработнай платы. Некаторыя прадпрыемствы рыхтуюцца да страйкаў.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

ПАЛІТЫКА

# Не ўмешвайце спартоўцаў у палітыку!



«Пакінуць спартсменаў у баку ад палітычных інтрыгаў» заклікаў чыноўнікаў трохразовы чэмпіён свету па біятлоне, член еўрапейскай камісіі спартсменаў пры Асацыяцыі еўрапейскіх алімпійскіх камітэтаў Вадзім Сашурын. Гэтую заяву ён зрабіў увечары 8 кастрычніка ў Мінску на прэс-канферэнцыі, прысвечанай падрыхтоўцы беларускіх біятланістаў да XIX Зімовай алімпіяды ў Солт-Лейк-Сіці (ЗША), якая пройдзе з 8 па 24 лютага 2002 года.

«Рознага кшталту «злёты» і павучанні толькі адцягваюць ад працы і перашкаджаюць сканцэнтравацца. Лепш, калі самі трэнеры будуць вызначаць, у якіх кірунках трэба працаваць», — сказаў Сашурын. У якасці адмоўнага прыкладу біятланіст прывёў выпадак, які адбыўся з ім на Зімовай алімпіядзе 1994 года ў нарвежскім Лілехамеры, калі яго спачатку «папрасілі» паспяхова выступіць, затым «запатрабавалі», а праз некаторы час заявілі, што ён «абавязаны» зрабіць гэта. «Пасля ўсяго гэтага ад нервовага напружання ў мяне на старце рукі не траплялі ў пальчаткі», — рэзюмаваў Сашурын.

Біятланіст лічыць немэтазгодным давядзенне да спартсменаў і трэнераў планаў па медалях: «Спорт ёсць спорт, і ён непрадказальны. Дайце нам спакойна рыхтавацца, і за намі не заржавее».

Сашурын адмоўна паставіўся да ідэі паказу па Беларускім тэлебачанні напярэдадні Алімпіяды сюжэтаў аб беларускіх алімпійцах: «Гэта лішні ажыятаж вакол нас. Як мы будзем потым глядзець у вочы людзям, калі не апраўдаем іх чаканняў?»

Намеснік міністра спорту і турызму, кіраўнік беларускай дэлегацыі на Алімпіядзе ў Солт-Лейк-Сіці Аляксандр Грыгараў, які прысутнічаў на прэс-канферэнцыі, запэўніў спартсменаў, што «ніякіх «камсамольскіх сходаў» не будзе». Віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Аляксандр Мядзведзь заявіў, што спартсменаў «тузаць шмат не будуць», аднак падкрэсліў, што яны з'яўляюцца «гонарам нашай краіны, а краіна павінна ведаць сваіх герояў».

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Беларусь «пракінулі» ў ААН



А вось сірыйскі дыпламат Міхаіл Уэбэ ў адкрытую святкуе перамогу разам з пакістанскім і індыйскім амбасадарамі.

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Варта адзначыць, што нават падтрымка 53 краінаў – гэта даволі шмат; напрыклад, Мексіка, якая змагалася з Дамініканскай рэспублікай за месца ад Лацінскай Амерыкі і Карыбскіх выспаў, перамагла з «лікам» 138:40. Астатнія краіны – Камерун і Гвінея ад Афрыкі і Сірыя ад азіяцкіх і арабскіх краінаў прайшлі ў склад непастаянных чальцоў Савета Бяспекі ў выніку безальтэрнатыўных выбараў.

Дарэчы, той факт, што ў склад Савета Бяспекі патрапіла Сірыя, стварыла сапраўдную сенсацыю ў свеце. Сірыя ўваходзіць, паводле амерыканскіх экспертаў, у спіс краінаў, што падтрымліваюць тэрарызм. Аднак гэта не перашкодзіла ёй перамагчы. Некаторыя ААНаўскія дыпламаты адзначылі, што калі б ЗША выступілі супраць гэтай кандыдатуры, то яе б не падтрымалі. Аднак прадстаўнік ЗША маўчаў. Пазней афіцыйныя асобы Амерыкі заявілі, што кандыдатура Сірыі з'яўляецца «кампраміснай». Яны таксама спасылаліся на тое, што яшчэ ў сакавіку 50 краінаў Азіі аднагалосна дэлегавалі менавіта Сірыі права іх прадстаўляць у Савеце Бяспекі ААН.

Такім чынам, Балгарыя, Гвінея, Камерун, Мексіка і Сірыя заменяць Бангладэш, Малі, Туніс, Украіну і Ямайку сярод часовых чальцоў Савета Бяспекі. Тут яны далучацца да Ірландыі, Калумбіі, Маўрыкія, Нарвегіі і Сінгапура, чый тэрмін заканчваецца ў студзені 2003 года.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# На БТ сьпяць спакойна

Беларуская Тэлевізія не заўважыла ракетнае атакі на Аўганістан. Падзею, якое сьвет напружана чакаў ад моманту тэрактаў у Амэрыцы, БТ папросту праігнаравала. Пакуль рэдакцыі ці ня ўсіх нацыянальных каналаў плянэты рыхтавалі спэцвыпускі навінаў, БТ жыло сваім звыклым нясьпешным жыцьцём.

Ад пачатку бамбаваньня талібаў тэлевізійныя каналы сьвету поўніліся спалохамі выбухаў. Кіраўнікі розных краінаў ды мінакі на вуліцах сталіцаў устрывожана камэнтавалі падзеі, што разгортваліся проста на вачох — у спэцвыпусках навінаў і наўпроставых трансьляцыях.

Тым часам гледачы Беларускае Тэлевізіі вывучалі зьмест праграмы «Тэлебаромэтар - прагноз надвор'я». Сьледам мелі магчымасьць паўгадзіны дазнавацца пра галоўныя падзеі ў вэрсіі інфармацыйнае праграмы «Панарама». А на дэсэрт аматару БТ было прапанавана паглядзець пару французкіх фільмаў. Скончыла ж БТ сваё вяшчаньне валейболам.

Стыль службы інфармацыі БТ нагадвае анэкдот: «Прэзыдэнт пракантраляваў выкананьне пляну. Прэзыдэнт дапамог перабраць бульбу. На Менск падае ядравая бомба. А цяпер пра надвор'е...».

56 гадоў ужо ў Беларусі не было вайны. Апошнія сем гадоў у нас не было вайны, дзякуючы прэзыдэнту, як мяркуе сам Аляксандар Рыгоравіч. Магчыма, БТ перакананае, што беларускага гледача мала цікавіць пагроза Трэйцяе Ўсясьветнае вайны. Магчыма, на БТ сьвята вераць у звышздольнасьць прэзыдэнта адводзіць ракеты ад межаў краіны.

З пэўнасьцю можна сказаць адно. На БТ трымаюцца традыцыяў: вайна вайной, а прэзыдэнт па раскладзе.

**Севярын КВЯТКОЎСКІ**
**Радыё «Рацыя»**

ФІНАНСЫ

# Што будзем рабіць узімку?

## *Камунальная гаспадарка не назапасіла дастаткова паліва на зімовы перыяд*

Учора прайшло адмысловае паседжанне прэзідыума Савета міністраў, прысвечанае пытанням падрыхтоўкі гаспадаркі да зімы. Высветлілася шмат непрыемных фактаў. У выніку было вырашана перанесці абмеркаванне на больш позні тэрмін.

Адкрываючы паседжанне, Генадзь Навіцкі раскрытыкаваў дзеянні камунальнай гаспадаркі – запасы паліва на зіму не створаныя, рамонт цеплаасетак і тэхналагічнага абсталявання вядзецца з адставаннем ад усталяваных тэрмінаў, насельніцтва кепска забяспечанае тарфянымі брыкетамі.

Галоўны выступ па сітуацыі ў гэтай галіне належаў намесніку міністра эканомікі Уладзіміру Найдзёнаву. Ён удакладніў інфармацыю, прадстаўленую прэм'ер-міністрам. Аднак Генадзь Навіцкі застаўся незадаволены. Па ягоных словах, аналіз не быў зроблены ў поўным аб'ёме. Міністэрства эканомікі не здолела назваць імёны вінаватых чыноўнікаў, якія не выканалі заданні па стварэнні запасаў паліва на зіму – прагучалі толькі даведкавыя дадзеныя, а не канкрэтныя прапановы.

Па звестках эканамічнага ведамства, галоўная праблема – недастатковае фінансаванне. Паліўнага мазуту назапашана толькі каля 75% ад плана ў 716 тысяч тонаў. Паліўныя брыкеты для насельніцтва гатовыя на 85,9%.

Разлікі за спажытыя энергарэсурсы таксама знаходзяцца ў нездавальняючым стане. За 9 месяцаў гэтага года аплата склала толькі 81,8%. Пры гэтым, не ўсе прадпрыемствы разлічваюцца за яе грашыма.

Такім чынам, калі сітуацыя не будзе аператыўна змененая, мы можам застацца на зіму або на частку зімы без гарачай вады і без ацяплення. Дарэчы, сіноптыкі прадказваюць халодную зіму.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Масавае звальненьне работнікаў на радыёзаводзе

Чарговую партыю рабочых ды інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу скарачае Гомельскі радыёзавод. Гарадзкі цэнтар занятасьці насельніцтва прапануе дырэкцыі не звальняць шэраг работнікаў, а накіраваць на вахтавую працу ў суседнюю Расею.

Як паведаміў начальнік аддзелу кадраў радыёзаводу Віктар Чарняўскі, сёлета да пачатку кастрычніка завод ужо звольніў 370 рабочых і інжынэрна-тэхнічных спэцыялістаў. Пад чарговае скарачэньне трапляюць яшчэ 120 чалавек. Найперш гэта спэцыялісты аддзелаў і розных тэхнічных службаў, бо папярэднія скарачэньні закранулі найбольш вытворчыя цэхі.

У рабочым асяродку наогул распаўсюджанае нэгатыўнае стаўленьне да інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу. Мяркуюць, што менавіта з-за значнай колькасьці інжынэраў, тэхнолягаў ды іншых спэцыялістаў не ўдаецца стабілізаваць сытуацыю на заводзе.

Раней радыёзавод уваходзіў у вайскова-прамысловы комплекс былога СССР і выпускаў сродкі сувязі. За 10 гадоў завод так і ня здолеў знайсьці сабе трывалага месца на беларускім рынку. Даўгі за энэрганосьбіты, крэдыты, падаткі перавысілі 3 мільярды рублёў. Колькасьць рабочых на заводзе скарацілі больш як утрая, але дырэкцыя працягвае звальняць пэрсанал.

Гарадзкі цэнтар занятасьці насельніцтва прапануе дырэкцыі радыёзаводу не звальняць частку рабочых і спэцыялістаў, а накіраваць на працу на расейскі агрэгатны завод у невялікім гарадку Людзінава Калускай губэрні. Іншым звольненым прапанавалі паехаць на збор яблыкаў у Варонескую губэрню.

Наколькі вядома, кіраўнікі агрэгатнага заводу зь Людзінава мелі перамову з дырэктарам радыёзаводу Анатолем Кірыкавым. Аднак канкрэтнай дамовы пакуль няма. Расейцам для выкананьня заказу горназдабывальнай прамысловасьці патрэбныя кваліфікаваныя рабочыя пэўных спэцыяльнасьцяў. Аднак іх пасьля масавых звальненьняў не хапае і радыёзаводу.

Да таго ж расейцы прапануюць толькі часовую працу вахтавым мэтадам, што таксама абцяжарвае пошук жадаючых.

Пошукі працы ў суседняй Расеі — ня рэдкасьць для гамельчукоў, асабліва калі іх скарацілі, альбо тых, хто ня можа пракарміць свае сем'і з-за нізкіх заробкаў. Гамельчукі ўдзельнічалі нават у будаўніцтве храма Хрыста Збаўцы ў Маскве.

Штопраўда, нягледзячы на саюзныя дачыненьні Беларусі й Расеі, беларускія грамадзяне, якія наняліся на працу ў суседзяў, вымушаныя плаціць падаткаў больш як у два разы за расейскіх рабочых.

**Казімер ЯНОЎСКІ**
**Радыё «Свабода»**

КАМЕРЦЫЯ

# Удар па берасцейскіх «чаўнаках»

Нечаканы ўдар масаваму берасцейскаму бізнесу нанесла польскае міністэрства фінансаў. Як паведамілі афіцыйныя крыніцы ў Польшчы, з 1 студзеня 2002 года суседняя дзяржава плануе зрабіць значна больш жорсткімі правілы ўвозу алкагольнай і тытунёвай вытворчасці. У выніку пад пагрозай апынуліся заробкі тысяч брэстаўчанаў, для якіх штодзённы вояж у Польшчу – адзіная крыніца даходаў.

Цяпер яшчэ праз польскую мяжу можна перавезці дзве пляшкі гарэлкі і пару блокаў цыгарэтаў. Калі рабіць удзень два рэйсы, тлумачаць «чаўнакі», то можна някепска зарабляць – у некалькі разоў больш, чым прапаноўваюць беларускія прадпрыемствы сваім супрацоўнікам. Але з новага года, паводле прапановы польскага міністэрства фінансаў, бяспошлінна можна будзе ўвезці толькі пляшку гарэлкі і адзін пачак цыгарэтаў – і толькі пры ўмове знаходжання на тэрыторыі Польшчы не менш за 24 гадзіны. У такіх умовах «беларускі транзіт» становіцца абсалютна нявыгадным.

У якасці апраўдання сваіх дзеянняў польскія фінансісты тлумачаць, што легальны ўвоз алкагольных і тытунёвых вырабаў шматкроць павялічыўся, а ягоны продаж у краіне апошнія два гады ўвесь час падае. Паколькі беларусы прадаюць прывезеныя гарэлку і цыгарэты «заходняй суседцы» па палавіннай цане, то бюджэт краіны недалічваецца трох мільярдаў злотых (каля 700 мільёнаў долараў) штогод.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

НАВУКА

## Нобелевские лауреаты по медицине

Британские исследователи Тимоти Хант и Пол Нерс и американец Леланд Хартуэлл стали в понедельник обладателями Нобелевской премии 2001 года по медицине и физиологии за открытия, касающиеся «регулирующих кодов клеточного цикла». «Эти фундаментальные открытия имеют большое влияние во всех аспектах развития клеток», — подчеркивают представители Нобелевской ассамблеи Королевского института Стокгольма. По их мнению, сделанные тремя медиками исследования «помогут лучше понять изменения генома в затронутых раком клетках и могут открыть новые пути лечения раковых заболеваний». Премия по медицине является первой из шести Нобелевских премий, которые присуждаются в этом году. Ее размер, как и остальных премий, составляет $1,025 млн. В этом году Нобелевской премии по медицине и физиологии исполняется сто лет.

СПАДЧЫНА

## Восеньскія вандроўкі

Вялікая група актывістаў Маладога Фронту і «Эўрапейскага шляху» наведалі шэраг гістарычных мясцінаў Мінскай і Віцебскай абласцей. Маршрут паездкі праходзіў праз вёску Княгінін, горад Мядзел, пасёлак Нарач, вёску Дунілавічы, дзе знаходзіцца велічны касцёл пачатку 18 стагоддзя. У невялікай вёсцы Крыкалава, што побач з Дунілавічамі, захаваліся руіны маёнтка магнатаў Абрамовічаў. На сямі высокіх узгорках, зрэзаных ярамі, захаваўся стары парк з векавымі дрэвамі розных пародаў, некаторыя з якіх уражваюць сваімі памерамі. Нешматлікія маёнткавыя гаспадарчыя пабудовы, што захаваліся, разбураюцца. Радавыя могілкі Абрамовічаў нядаўна былі раскапаныя невядомымі вандаламі. Помнікі XIX стагоддзя скінутыя з пастаментаў, магілы раскапаныя. Як зазначылі арганізатары паездкі — кіраўнікі «Эўрапейскага шляху», культуролагі Аляксей Фралоў, Алесь Галіч — гэты унікальны па прыгажосці маёнтак нават не ўключаны ў склад помнікаў, ахоўваемых дзяржавай, і, хутчэй за ўсё, не захавацца. Удзельнікі паездкі пабывалі ў вёсцы Лучай з манументальным касцёлам пабудовы 1771 года. Хаця ў гады Савецкай улады ў касцёле знаходзіўся гараж, у храме захаваліся унікальныя фрэскі і арган. Самым старажытным на шляху следавання стаў касцёл у вёсцы Камаі, пабудаваны ў канцы XVI—пачатку XVII стагоддзя. Гэты храм-крэпасць з двухметровымі сценамі, у якіх засталіся сляды ад каменных ядраў, што літаральна ўплавіліся ў магутныя муры. Па словах экскурсантаў, захаваныя ў беларускай глыбінцы архітэктурныя помнікі ўражваюць.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

СПОРТ

## Фінансаў больш, чым трэба

Фінансаванне падрыхтоўкі беларускіх спартсменаў да XIX Зімовай алімпіяды ў Солт-Лейк-Сіці (ЗША) ажыццяўляецца ў поўным аб'ёме, фінансавыя патокі «сканцэнтраваныя такім чынам, каб вядучыя спартсмены і віды спорту ні ў чым не мелі патрэбы». Пра гэта заявіў намеснік міністра спорту і турызму, кіраўнік беларускай дэлегацыі на Алімпіядзе Аляксандр Грыгараў.

Паводле яго словаў, міністэрства забяспечвае «ўсе бытавыя, матэрыяльна-тэхнічныя ўмовы», фінансуе «медыцынскае і навуковае забеспячэнне» ў біятлоне, фрыстайле і лыжных гонках. У астатніх відах спорту робіцца «кропкавае» фінансаванне канкрэтных спартсменаў, якія могуць паказаць высокі вынік.

Як паведаміў намеснік міністра, з арганізатарамі Алімпіяды ўдалося дамовіцца аб «альтэрнатыўным» размяшчэнні членаў лыжнай і біятлоннай зборных у непасрэднай блізкасці ад стадыёнаў, дзе будуць праходзіць спаборніцтвы, паколькі адлегласць ад Алімпійскай вёскі да месца правядзення спаборніцтваў па біятлоне — 74 кіламетры, па фрыстайле — 50. Апрача таго, спаборніцтвы па фрыстайле будуць праводзіцца на вышыні 2.270 метраў над узроўнем мора, тады як вёска размешчаная на вышыні 1.600 метраў.

Паводле інфармацыі Грыгарава, спартсмены, трэнеры і кіраўнікі дэлегацыі будуць карыстацца паслугамі польскай авіякампаніі «*LOT*», якая арганізуе прамыя рэйсы ў Солт-Лейк-Сіці з Варшавы.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# С язвой по жизни

## *Как не заболеть язвой и как ее лечить при заболевании, объясняет профессор Игорь Иваников*

***— Игорь Олегович, по статистике язвенной болезнью страдает каждый десятый человек на земле. Что же из себя представляет язвенная болезнь?***

— Это хроническое заболевание, при котором на слизистой оболочке желудка или двенадцатиперстной кишки образуются эрозии (ранки) или более глубокие дефекты — язвы. Если они располагаются вблизи сосудов, возможно кровотечение. Бывают и другие осложнения: пенетрация — срастание язвы с прилежащими органами, стеноз — сужение выходного отдела желудка, препятствующее прохождению пищи, перфорация — прободение и попадание желудочного содержимого в брюшную полость, наконец, малигнизация — злокачественное перерождение язвы. Все перечисленные варианты осложненного течения язвы требуют хирургического лечения.

***— Отчего возникает эта болезнь?***

— Причин язвенной болезни несколько. Одна из них — стрессовая ситуация. Несчастье с близким человеком, потеря его, крах в делах – стресс любого характера способствует возникновению язвенной болезни. Другая важнейшая причина этого заболевания — бактерия *Helicobacter pylori*. Это единственная бактерия, которая живет в кислой желудочной среде. Она имеет огромное значение не в самом возникновении язвы, а в рецидивировании болезни. Эта бактерия очень распространена: в нашей стране она находится в слизистой оболочке желудка у 70-80% населения. *Helicobacter pylori* может передаваться от человека к человеку. Исследования, проведенные в США, показали, что чем меньше бытовая скученность, чем лучше соблюдаются гигиенические правила, тем меньше вероятность инфицирования. В частности, этот микроорганизм активно передается в детских учреждениях. На организм воздействуют, с одной стороны, так называемые защитные факторы: образование слизи, бикарбонатов, нормальное кровоснабжение, с другой стороны — агрессивные факторы: повышенная выработка соляной кислоты в желудке, нерациональное питание. Третья основная причина язвенной болезни — лекарства, которые приходится принимать при некоторых заболеваниях: артритах, артрозах, болезнях суставов, соединительной ткани. Это так называемые нестероидные противовоспалительные средства — аспирин, бруфен, диклофенак, вольтарен. Все они оказывают повреждающее действие на слизистую оболочку желудка и двенадцатиперстной кишки. Надо сказать, что эти препараты опасны именно в первую неделю приема. Иногда уже через 4-5 дней образуется язва. Дальше, если этого не произошло, больной к ним адаптируется.



***— Так ведь и при какой-нибудь простуде человек, бывает, 4-5 дней принимает аспирин, чтобы понизить температуру.***

— Да, прием аспирина в течение нескольких дней, несколько инъекций вольтарена при радикулите могут вызвать язву. Это очень актуальная проблема, потому что нестероидные противовоспалительные средства прописывают при серьезных заболеваниях, когда без них невозможно обойтись. Конечно, к ним не следует прибегать без особой необходимости, по собственному разумению.

***— Стрессовые ситуации возникают в жизни каждого человека, но ведь не у каждого в результате развивается язвенная болезнь. От чего это зависит?***

— Здесь основная роль принадлежит соотношению защитных механизмов и факторов агрессии. Если человек, инфицированный *Helicobacter pylori*, попадает в неблагоприятные обстоятельства, это обычно приводит к язве. Известно, что психологически подвержены язвенной болезни люди, работа которых связана с высоким уровнем ответственности, с особым нервным напряжением: летчики, авиадиспетчеры, хирурги, теперь вот бизнесмены, то есть те, сама деятельность которых представляет хронический стресс.

В Европе, США и в нашей стране частота язвенной болезни примерно одинакова. Болезнь эта может возникнуть один раз в жизни и больше не проявляться, может проявляться один-два раза в году в виде обострений, а может рецидивировать очень часто. Последняя группа больных попадала в компетенцию хирургов. Раньше приходилось прибегать к хирургическим вмешательствам довольно часто. Производили резекцию желудка — это нарушение физиологических соотношений. Позже стали удалять только выходной отдел желудка, но, поскольку там проходит вагусный нерв, у части мужчин это приводило к импотенции. Понятно, что во всех случаях операции следует избегать.

***— А вообще есть какие-то способы предотвратить возникновение язвенной болезни?***

— Нельзя строить свою жизнь на том, чтобы гарантированно предотвратить все болезни. Конечно, играет большую профилактическую роль регулярное питание — есть надо три-четыре раза в день. Среди наших больных в последнее время появились люди, причем молодые — 30-40 лет, которые, видимо, недавно стали религиозными и начали рьяно соблюдать посты. В конце поста они попадают к нам с язвой.

***— Это не священнослужители?***

— Как раз характерно, что среди них нет священнослужителей. Обычно это бизнесмены, которые решили соблюдать пост. Кстати, священники говорят, что пост больных Господу не угоден.

**Ада ГОРБАЧЕВА**
**Ng.ru**

# Американцам придется менять приоритеты

**Джозеф СТИГЛИЦ, профессор экономики Колумбийского университета**

*Хотя прошло уже несколько недель после совершения террористических атак на Нью-Йорк и Вашингтон, американцы все еще продолжают испытывать чувство такой сильной тревоги, какой не испытывали со времен Кубинского ракетного кризиса или блокады Берлина.*

Сейчас Америка в большей степени чувствует себя сообществом, и существует более сильное чувство социальной сплоченности, чем было все эти годы, даже десятилетия. На подходе также сильно запоздалый пересмотр роли правительства. Мы гордимся нашими пожарными и полицейскими, четко и глубоко осознаем проявленный ими героизм и готовность пожертвовать собой ради других. Растет ощущение того, что мы могли сбиться с пути, придавая слишком много значения собственной материальной выгоде и слишком мало – общим интересам.

Если оглянуться назад, то коечто из того, что делали администрации Буша и Клинтона в подражание рыночным фундаменталистам по всему миру, кажется совершенно абсурдным. Не было никакого смысла в «приватизации» такой жизненно важной сферы общественных интересов, как безопасность аэропортов. Низкие зарплаты, которые платили охранникам частных служб безопасности аэропортов, привели к высокой текучести кадров. Авиалинии и аэропорты, возможно, получили больше прибыли в короткие сроки, но они – и американский народ – в конечном счете, потеряли гораздо больше, как мы сейчас знаем к своему ужасу.

У министра финансов в администрации Буша Пола О'Нейла не было никаких оснований в пренебрежительной манере отказываться от заключенного в рамках Организации по экономическому сотрудничеству и развитию (*OECD*) соглашения по борьбе с отмыванием денег. И чтобы ни говорил мистер О'Нейл, настоящие причины его отказа были ясны – защита финансовых интересов. Возникновение оффшорных банковских центров не было случайностью. Они существуют, поскольку Уолл-стрит и другие финансовые центры по всему миру хотели иметь «закрытые гавани», где можно было бы укрыться от законов и налогов.

Такое же беспокойство вызывают и другие секретные действия, или действия, которые публично практически не обсуждались. В 1997 году в Америке была приватизирована корпорация по обогащению (*USEC*). Лишь немногим известно, что скрывается за этим невинным названием. Корпорация *USEC* занимается обогащением урана с целью создания главных компонентов атомных бомб и топлива для атомных электростанций. Она также отвечает за вывоз из России ядерных материалов от старых советских боеголовок и за переработку этих материалов в слабообогащенный уран, используемый затем в качестве топлива для атомных электростанций, что является воплощением в жизнь инициативы «перекуем мечи на орала».

Однако после приватизации у корпорации *USEC* появились все условия, позволяющие ей не пускать ядерные материалы на американский рынок, так как появление аналогичных российских материалов снизило бы цены на них и уменьшило бы ее доходы. Как председатель Совета экономических консультантов, я понимал, что хранение этих материалов в России представляет огромную опасность и что именно это, возможно, является наиболее серьезной угрозой нераспространению ядерных вооружений. Это касалось не только национальных интересов США, но и интересов всего мира. Но искушение поставить свои доходы над всеобщими интересами для частных фирм практически непреодолимо.

Приватизировать корпорацию *USEC* и, таким образом, искушать ее управляющих не было никакого смысла. Мои опасения подтвердились, и это произошло быстрее и значительно хуже, чем я когда-либо предполагал. Мы обнаружили секретное соглашение между корпорацией *USEC* и минатомом России (министерство, отвечающее за ядерные материалы), согласно которому в ответ на предложение российской стороны послать на хранение в США большее количество своих ядерных материалов *USEC* ответила: «Спасибо, не надо», а затем заплатила 50 миллионов долларов в качестве взятки за то, чтобы русские не заявляли во всеуслышанье о своем предложении.

Корпорация *USEC* неоднократно пыталась выкачать деньги из американских налогоплательщиков, заявляя, что она не будет доставлять российские материалы в Америку, если ей не будут выделены дополнительные средства. Как может американское правительство продолжать эту приватизацию, которая даже на первый взгляд выглядит так нелепо?

В очередной раз министерство финансов Америки (мистер Саммерс, а также Роберт Рубин) поставило интересы Уолл-стрита выше национальных. Жажда лишнего миллиарда долларов бюджетного дохода за один год – даже если доходы в последующие годы снизятся, скрепила эту сделку. Сейчас, на фоне значительного превышения доходов над расходами, эта бюджетная «близорукость» выглядит особенно глупой. У Конгресса были все основания для беспокойства, когда он передавал корпорации, имеющей слабое финансовое положение и нуждающейся в аттестации министерства финансов, контроль над производством, связанным с ядерным оружием. И сейчас неясно, сможет ли корпорация *USEC* соответствовать этим условиям (если только министерство финансов США не закроет на это глаза). В Конгрессе нарастает беспокойство, и выдвигаются предложения о необходимости снова провести национализацию этой корпорации.

Теперь уже ясно, что это решение американского правительства оказало воздействие не только на Уолл-стрит и не только на Америку, оно повлияло на ситуацию во всем мире. Америка провозгласила наступление глобализации. Вместе с тем она должна осознать, что с глобализацией приходит взаимозависимость, а в условиях взаимозависимости появляется необходимость в совместном принятии решений во *всех* областях, которые оказывают воздействие на всех нас.

**© Project Syndicate**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1770 Нумар падпісаны ў друк 9/10/2001 (15:00) Наклад — 9.900